БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

28 чэрвеня 1994 г.
Аўторак
№ 69 (13786)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года

**У НУМАРЫ:**



*Малюе Віктар ДУБОВІК*



# АДВЕЧНАЕ



*Гэтымі днямі да нас вярталася адвечнае. І цяжка часам было ўявіць, што свята, якое адбываецца на тваіх вачах, — Першы міжнародны фестываль фальклору, які праходзіў у Пінску, на самай справе... першы. Ды ўсё ж акрыляла радасць, што ён хоць і са спазненнем, але адбыўся. Колькі ж гадоў такая багатая спадчына таілася ў аддаленых вёсках, жыла сваім невядомым нікому жыццём і можа (страшна падумаць!) была б страчана, каб не гэты фестываль, каб не навукоўцы–фалькларысты, рупліўцы народнай культуры, якія рыхтавалі гэтую падзею не адзін месяц, не адзін год. Але цяпер усё стала набыткам гісторыі, а беларускі народ атрымаў яшчэ адзін атрыбут дзяржаўнасці і цывілізаванасці.*

(Заканчэнне на 2-й стар.).
Фота Жанны МАЁРАВАЙ.

## Кур'ер "ЧЗ"

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

### "Народ выказаў вотум недавер'я цяперашняму ўраду"

***Лідэр першага тура "прэзідэнцкай гонкі" Аляксандр Лукашэнка на першай прэс–канферэнцыі пасля аб'яўлення папярэдніх вынікаў галасавання выступіў з дзвюма заявамі.***

У звароце да выбаршчыкаў прэтэндэнт на прэзідэнцкую пасаду, у прыватнасці, заявіў, што пасля 23 чэрвеня прынцыпова змянілася расстаноўка сіл на палітычнай арэне, паколькі грамадзяне рэспублікі не проста галасавалі за першага прэзідэнта, а фактычна выказалі вотум недавер'я палітыцы цяперашняга ўрада Беларусі і мясцовай бюракратычнай уладзе. "Гэта паваротны шлях у развіцці нашага грамадства на шляху да дэмакратыі", — лічыць А.Лукашэнка.

Другая заява датычыла беларускай прэсы. Паводле слоў прэтэндэнта, першы тур выбараў прэзідэнта рэспублікі паказаў сілу журналісцкага слова. Адначасова журналісты прадэманстравалі і сваю бездапаможнасць ва ўмовах абсалютнай дзяржаўнай манаполіі на інфармацыю. Часта іх прымушалі выступаць у тэле- і радыёэфіры са словамі, якія не адпавядаюць уласнай грамадзянскай пазіцыі саміх журналістаў. Таму, у выпадку перамогі, каманда Лукашэнкі гатова гарантаваць усім работнікам сродкаў масавай інфармацыі ліквідацыю манаполіі дзяржавы на СМІ, адмову ад палітычнай цэнзуры, а таксама спыненне ганенняў на журналістаў па палітычных меркаваннях, стварэнне нармальных умоў для творчай работы і свабоднае атрыманне імі інфармацыі, незалежна ад волі чыноўнікаў.

Аляксандр Лукашэнка заявіў, што чуткі, якія мусіруюцца ў апошні час, аб тым, што ў выпадку перамогі ў прэзідэнцкай кампаніі ён разгоніць увесь дзяржаўны апарат, не маюць ніякіх падстаў. "85 працэнтаў дзяржаўных служачых, праваахоўных органаў, КДБ, пракуратуры прыстойныя і сумленныя людзі. Але ўвесь генералітэт, усё кіраўніцтва дзяржаўных органаў улады будзе знята з пасад на працягу першых сутак".

Прэтэндэнт таксама адзначыў, што з усімі астатнімі ён і яго каманда гатовы працаваць і супрацоўнічаць. Гэта датычыць і кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў. Ім будзе дадзены час да 1 студзеня 1995 года. Калі да гэтага моманту прамысловыя прадпрыемствы не будуць нармальна функцыяніраваць, кіраўнікі будуць зняты са сваіх пасад.

Аляксандр Лукашэнка таксама заявіў, што не выключае магчымасці запрасіць на пасаду прэм'ер-міністра каго-небудзь з членаў цяперашняга ўрада.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Вялікае свята маленькага раёна

***26 чэрвеня 1945 года Талачынскі раён быў вызвалены ад фашысцкай навалы. З гэтай нагоды ў суботу і нядзелю жыхары раёна адзначылі ўласнае свята Перамогі.***

Пачалося ўсё з урачыстага сходу ветэранаў, пасля якога адбыўся святочны канцэрт з удзелам артыстаў не толькі з Талачына, але з Пачынка і Вялікіх Лук — расійскіх раёнаў, сяброўскіх Талачынскаму. Пасля ў мясцовым райвыканкаме распачаўся прыём для вызваленцаў раёна. А моладзь тым часам сабралася на гарадской плошчы, дзе пачыналася дыскатэка, што працягвалася да цемнаты.

На ўрачыстае шэсце да Кургана Славы і мітынг у дзень вызвалення былі запрошаны знакамітыя землякі талачынцаў, Героі Савецкага Саюза М.Б.Осіпава, Я.М.Целешаў, М.С.Камельчык і І.А.Сарокін — камандуючы 18-й гвардзейскай танкавай брыгадай 3-га гвардзейскага танкавага Кацельнікаўскага корпуса, якая вызваляла раён у 45-м.

**Ірына ЗАВАДСКАЯ.**

### Заява літаратараў

***Таварыства Вольных Літаратараў выступіла з рэзкім асуджэннем закрыцця радыёстанцыяў "Беларуская маладзёжная", "Крыніца", а таксама забароны на друкаванне газеты "Свабода" у Беларускім Доме друку.***

Тэвэлаўцы патрабуюць аднаўлення эфіру названых радыёстанцыяў, а таксама спынення наступу на незалежныя сродкі масавай інфармацыі і ўвогуле на правы чалавека на Беларусі.

**Ігар СІДАРУК.**

### Бяда не навучыла

***Больш як тры дзесяткі пажараў здарыліся на прадпрыемствах і ў прыватным сектары Жыткаўшчыны з пачатку бягучага года. Так, толькі ў красавіку ад 9 з іх страты склалі звыш 95 мільёнаў рублёў.***

Адной з асноўных прычын загаранняў з'яўляецца абыякавасць да захавання правілаў бяспекі і карыстання адкрытымі крыніцамі агню. Складваецца ўражанне, што некаторых адказных работнікаў бяда нічаму не навучыла. Толькі за апошні месяц да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў пажарнай бяспекі прыцягнута каля 40 чалавек.

**Алесь ЛАРЫЁНАЎ.**

### У ролі спонсара – фермер

***Як ні цяжка сёння фермерам, але і яны часам дапамагаюць слабейшым.***

Так, адзін са жлобінскіх фермераў ахвяраваў мільён рублёў раённай станцыі хуткай дапамогі. Гэтыя сродкі пойдуць на набыццё аднаразовых шпрыцаў.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

### Пальмы ў Віцебску? Чаму б і не

***Хто мог падумаць, што на тэрыторыі дома для адзінокіх пенсіянераў і інвалідаў можна вырошчваць пальмы, ліяны, кававыя дрэвы, аспарагусы, асабліва ва ўмовах поўначы Беларусі?***

Хіба што дырэктар гэтага дома Леанід Міхайлавіч Чыграй. Ён вырашыў стварыць тут зімні сад. І, дзякуй шматлікім спонсарам, мара становіцца яваю. Дапамагаюць, хто можа. Але самыя галоўныя садоўнікі — жыхары дома. І — цяплее на Віцебшчыне.

### Хочаце квасу – едзьце ў Бешанковічы

***Здаецца, звычайны хлебны квас, незаменны ўлетку напой, хутка давядзецца заносіць у Чырвоную кнігу. Настолькі бессаромна выцясняюць яго выгадныя для рэалізацыі розныя заморскія "хершы".***

А вось жыхары Улы квас паважаюць. На Ульскім кансервава-агароднінасушыльным заводзе адкрываецца нават цэх па яго вытворчасці. Такім чынам, прадпрыемства спадзяецца вырашыць праблему захавання рабочых месцаў. А напой будзе прадавацца ў Уле і Бешанковічах.

**Уладзімір МІХНО.**

### Фальшывая... міласціна

***Надта ж не пашанцавала нядаўна аднаму маладзечанскаму жабраку, які прасіў міласціну каля варот гарадскога кірмашу.***

Да яго падышоў хлопец і кінуў у шапку зялёную паперку вартасцю ў сто даляраў. Калі ж шчаслівы жабрак кінуўся ў банк, каб абмяняць даляры, там вызначылі, што замежная паперка... фальшывая.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

**Курсы валют на 27 чэрвеня:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 24975 | 25850 | 15540 | 16100 |
| "Прыор" | 25000 | 25500 | 15550 | 15900 |
| "Пошук" | 25200 | 25800 | 15300 | 15700 |

**ВЫБАРЧЫ МАРАФОН: ПАЗІЦЫІ, ДУМКІ, МЕРКАВАННІ**

# Пейзаж пасля бітвы

☐ **Якаў ЯСЭПКІН, "ЧЗ"**

***Чэрвеньскі выбар стаў фактам учарашняга дня, папярэднія вынікі галасавання абвешчаны. А Беларусь зноў стаіць перад выбарам, хаця зрабіць яго будзе значна прасцей. Шасцёрка ператварылася ў двойку, дуэт Аляксандр Лукашэнка — Вячаслаў Кебіч рушыў далей па шляху да прэзідэнцтва.***

Напярэдадні 23 чэрвеня не было недахопу ў самых розных прагнозах, аднак, бадай, ніводзін з іх не пацвердзіўся з вялікай дакладнасцю. Тое, што адбылося пад час народнага волевыяўлення, многія аналітыкі расцэньваюць не толькі як пэўную неспадзяванку, а і як падзею з парадку сенсацыйных. Але відавочныя, на першы погляд, меркаванні і адзнакі наўрад ці адлюстроўваюць аб'ектыўную сітуацыю, бо яна прагназіравалася, прычым па даволі важкіх прыкметах можна было чакаць менавіта падобнага завяршэння першага этапу прэзідэнцкага марафона. Давайце на імгненне азірнёмся назад: пейзаж пасля бітвы дае падставы паглядзець яшчэ раз на перадвыбарчую рэтраспектыву. Сярод мноства перадумоў сённяшняга раскладу палітычных прыярытэтаў выдзяляюцца некалькі найбольш уплывовых, якія і аказалі кардынальнае ўздзеянне на ўсім вядомыя вынікі.

Такія перадумовы падзяляюцца на дзве катэгорыі — натуральныя і штучныя. Да першых адносіцца шэраг сакраментальных пытанняў, паўстаўшых перад грамадствам апошнім часам. Ад таго, як прэтэндэнты на прэзідэнцкі трон ставіліся да іх, залежаў далейшы лёс кожнага з палітыкаў. Паблякла золата дваццаць трэцяга дня чэрвеня, і дастаткова цьмяны агульны фон выбарчай кампаніі (калі ў сродках масавай інфармацыі дамінавалі саноўныя каментары і афіцыйныя, не зусім адэкватныя ацэнкі сітуацыі) набыў яркасць і кантрастнасць. Атрыманы адказ на галоўнае: наколькі пасля разбурэння СССР у народнай свядомасці сцёрся вобраз дома-дзяржавы, наколькі моцнымі сталі памкненні да поўнага суверэнітэту і незалежнасці з ізаляцыяніцкімі комплексамі. Паступова, асабліва пасля атрымання ўсімі кандыдатамі магчымасці выхаду на рэспубліканскую тэлерадыёаўдыторыю, адбывалася палярызацыя іх пазіцый. Палітычныя постаці рассакрэціліся пад электроннымі праменямі публічнасці, народ стаў сведкай-відавочнікам апранання кожным з прамоўцаў пурпуровай тогі. Не ўсім падышло сімвалічнае адзенне высокага правіцеля, аднак вырашальную ролю адыгралі не толькі здольнасці ці талент менавіта публічнага прамоўніцтва, а матывацыя, сэнсавая аблямоўка, змест выступленняў і дэкларацый. Інакш кажучы, рабіўся выбар далейшага руху, выбар грамадства, на ўзроўні падсвядомасці нават і не звязаны з канкрэтнымі персаналіямі. Такая сувязь узнікла крыху пазней, дзесьці "на апошніх паверхах" уяўнай перадвыбарчай будовы, а спачатку кожны вызначыўся ў сваіх і толькі сваіх прыхільнасцях, адказаўшы на простае пытанне: як жыць далей, углядацца ў прыцемкаваміфічнае святло заходніх маякоў ці (а гэта традыцыя стагоддзяў), не губляючы здабыткаў суверэнізацыі, звязваць гістарычны лёс з братнімі народамі Расіі. Такім чынам, матывацыя, ад якой якраз і залежаў галоўны выбар, была простай і зразумелай. Варыянт першы: арыентацыя на аднаўленне трывалых сувязяў з усходняй суперзоркай (формы самыя розныя — саюз, садружнасць, федэрацыя, канфедэрацыя), на інтэграцыю палітыка-эканамічных сістэм. Варыянт другі: адхіленне ад "крамлёўскага магніта" — крэн на захад, дзе, само сабой, у агляднай будучыні альянсу чакаць не прыходзілася. Менавіта гэтыя палярныя матывы вызначылі зыход палітычнага супрацьстаяння. Прыхільнікі інтэграцыі (у агульнай фармулёўцы) былі ў яўнай большасці. Калі ў цёмных калідорах міражнага прэзідэнцкага замка засталося "шасцёра смелых", стала яшчэ больш відавочна, куды хіснецца маятнік народнага даверу. Умоўны расклад атрымаўся такі: 4 на 2. Паўторым, што лёс канкрэтных персаналій вызначаўся (вядома, з нейкай доляй сімвалічнай наканаванасці) пасля галоўнага выбару. Ён, як красамоўна сведчаць папярэднія вынікі, быў зроблены на карысць першага варыянта ў нашай нескладанай схеме.

Цяпер аб складзе чацвёркі. Прыхільнікі інтэграцыі Васіль Новікаў і Аляксандр Дубко пры ўсіх сваіх чалавечых прывабных якасцях не здолелі набыць патрэбны для поспеху імідж буйных палітыкаў, а толькі адцягнулі нязначную колькасць галасоў ад астатніх прэтэндэнтаў, прычым той самай арыентацыі. "Гран-пры" разыгралі паміж сабой Аляксандр Лукашэнка і Вячаслаў Кебіч. Уражвае агульная колькасць галасоў, набытых прагматыкамі з рэальнай арыентацыяй на аднаўленне інтэграцыйных працэсаў, — больш за 70 працэнтаў ад усёй колькасці выбаршчыкаў, прыйшоўшых 23-га на ўчасткі для галасавання.

Выбарная логіка патрабуе нескладаных адказаў на монапытанні, таму, не ўдаючыся ў праблемную глыбіню, адзначым няўдачу тандэма Пазьняк—Шушкевіч (сімвалізуючых адраджэнне ў той ці іншай ступені праз нацыянальную ідэю). Дарэчы, іхні электарат, як і кола прыхільнікаў інтэграцыйнай ідэі, вызначыліся і ўтварылі своеасаблівую замкнёную сістэму задоўга да канкрэтнага "дня шчыравання". Пацвердзіліся прагнозы наконт таго, што беларускае выбарчае сонцастаянне, якое занадта сімвалічна і шматзначна супала з сонцастаяннем летнім, як бы каму не падабалася, адбылося пад купалам метраполіі, пад сапраўды зоркавым уплывам Расіі. Агульнаславянскі небасхіл для большасці беларускага народа па-ранейшаму атаясамліваецца з нябёсамі Бацькаўшчыны, адсюль і выбар на карысць Лукашэнкі—Кебіча.

Што датычыць штучных перадумоў вынікаў галасавання, аб чым казалася вышэй, тут да галоўных трэба аднесці безліч пралікаў у арганізацыі перадвыбарчай кампаніі, дапушчаных камандай прэм'ера. Спачатку "эфект бумеранга" мы назіралі пры ўзвядзенні "сцяны маўчання" вакол прэтэндэнтаў у тэлерадыёэфіры. Меней такая палітыка закранула "папяровыя" СМІ, але і газетная скіраванасць у бок Дома ўрада прынесла адваротны эфект. Трэба прызнаць, гульня вялася па правілах, устаноўленых уладамі, — не вельмі тонкая палітыка. Ангажыраваныя "адкрыцці" ніколі не дасягаюць мэты (да месца прыгадаць аналагічны "ход канём" маскоўскіх партыйных бонзаў, калі дыскрэдытуючы Ельцына артыкул у італьянскай газеце "Рэпубліка" быў выкрыты, як фальшыўка, і згуляў адваротную ролю). А іх было зашмат, накшталт ілжэгаландскага артыкула-вандроўніка ці мытна-дэтэктыўнай гісторыі з гановерскімі агіткамі. Калі ж умоўная сцяна зруйнавалася і прэтэндэнты выйшлі ў адкрыты эфір, як гэта не дзіўна, па колькасці ўжытых непрацуючых штампаў і прапагандысцкіх клішэ каманда прэм'ера апынулася ў лідэрах. Аналіз такіх пралікаў вымагае асобнай размовы, пакуль жа адзначым: уражальны поспех Аляксандра Лукашэнкі стаў у пэўнай ступені сведчаннем не толькі ўдала праведзеных ім серыі тэлерадыёвыступленняў, а і "намаганняў" ягоных сапернікаў. Думаецца, сакрэт узлёту папулярнасці Аляксандра Рыгоравіча крыецца, у прыватнасці, у феномене ўздзеяння на аўдыторыю, асабліва праз магічны ўзмацняльнік прамога эфіру. Хаця асноўныя прычыны не ляжаць на паверхні, яны — глыбей.

**ДЗЕВЯТАЕ НЕБА**

*Дзяжурныя па выпуску перакладчыкі Віктар КАПАЧЭЛЬ, Андрэй СІДАРАЎ, рэдактары Якаў ЯСЭПКІН, Вітаўт МАРТЫНЕНКА.*

## "Еўраньюс"

### Небяспечнае асяроддзе

***Паводле даклада Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, палова еўрапейцаў жыве ў забруджаным навакольным асяроддзі.***

У дакладзе сэра Дональда Ачэсана, зачытаным на II Еўрапейскай канферэнцыі па ахове навакольнага асяроддзя гаворыцца пра тое, што 110 мільёнаў еўрапейцаў, галоўным чынам у Расіі і ва Усходняй Еўропе, ужываюць недабраякасную пітную ваду.

### Неапальскі сход "вялікай сямёркі"

***У наступным месяцы ў Неапалі павінна адбыцца штогадовая сустрэча лідэраў сямі буйнейшых індустрыяльных дзяржаў.***

Лідэры так званай "Вялікай сямёркі" працягнуць работу па інтэграцыі глабальнай эканомікі і разгледзяць меры па ажыццяўленню ўругвайскага гандлёвага пагаднення аб стварэнні сусветнай гандлёвай арганізацыі да 1 студзеня 1995 г. На сустрэчы лідэраў "Вялікай сямёркі" будуць абмяркоўвацца і іншыя пытанні.

## "Суперчэннэл"

### З "Надзейнага" – на "Камфорт"

***У 27 км ад берагоў Гаіці катэр "Надзейны" берагавой аховы ЗША выратаваў 11 гаіцян з парусной шлюпкі даўжынёй 4,5 метра.***

"Надзейны" прадставіў гаіцянскім эмігрантам харчаванне, ваду і медыцынскую дапамогу перад іх адпраўкай на амерыканскі карабель-шпіталь "Камфорт". З мінулага тыдня, калі "Камфорт", які стаяў ля ўзбярэжжа Ямайкі, зрабіўся цэнтрам разгляду прашэнняў, ён абслужыў больш як 100 эмігрантаў.

### Бежанцы – дзеці і старыя

***Баснійскія сербы застаюцца без жытла з–за грамадзянскай вайны, нягледзячы на дамоўленасць аб спыненні агню.***

5 тысяч сербаў кінулі свае дамы з-за баёў, якія вядуцца побач. Асабліва пакутуе мірнае насельніцтва. Сярод бежанцаў — дзеці і старыя, якія шукаюць паблізу баснійскіх вёсак абарону.

### Водбліск славы Элвіса

***Каля 2 тысяч фанаў прыйшлі на аўкцыён у Лас–Вегасе, на якім прадаваліся рэчы Элвіса Прэслі.***

Сярод рэчаў спевака былі яго легендарны белы касцюм, у якім ён выступаў на сцэне і які аценілі ў 90 тысяч даляраў. Картка "Эмерикэн Экспрэс" "пацягнула" на 36 тысяч даляраў. Чорная пластмасавая расчоска, якой спявак карыстаўся толькі адзін раз, была прададзена за 940 даляраў.

## "Уорлднэт"

### Самы касавы

***Самым касавым брытанскім фільмам стала стужка "Чатыры вяселлі і пахаванне".***

Толькі ў Англіі і ЗША фільм прынёс сваім стваральнікам 40 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў. Усяго ж чакаецца прыбытак у суме 60 мільёнаў.

### Страсці па ЕС

***Прэм'ер–міністр Бельгіі Жан–Люк Дэхаэн абвінаваціў лідэра Вялікабрытаніі Джона Мэйджара ў спробе заблакіраваць намаганне Бельгіі заняць адно з лідзіруючых месцаў у Еўрапейскім Саюзе.***

Вялікабрытанія была адзінай краінай, якая адхіліла прапанову замяніць на пасадзе Жака Дэлора на сустрэчы лідэраў Еўрапейскага Саюза ў Карфу.

## "TV-5"

### Канферэнцыя ў Белым доме

***Адміністрацыя Біла Клінтана праводзіць першую канферэнцыю па пытаннях развіцця Афрыкі ў Белым доме.***

Тон канферэнцыі задало пасланне паўднёваафрыканскага прэзідэнта Нельсана Мандэлы. Тры высокапастаўленыя эксперты гаварылі аб праблемах і патэнцыяле Афрыкі. Учора на канферэнцыі выступілі прэзідэнт ЗША Клінтан і віцэ-прэзідэнт Гор.

*(Працяг на 3-й стар.).*

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

**Бізнес-клас**

Вядучая рубрыкі Вера ПАЛЯКОВА
Тэл. 68-28-52

### Дзе прадаць і дзе купіць падшыпнікі

Дылерскія прадстаўніцтвы падшыпнікавых прадпрыемстваў ствараюцца і пачынаюць дзейнічаць у былых рэгіёнах СНД. Адна з такіх кантор будзе знаходзіцца ў Мінску.

Новая сістэма дылераў у некаторай ступені напомніць старую цэнтралізаваную сістэму размеркавання падшыпнікаў па тэрыторыі былога Саюза. Аднак заснавана яна будзе на самастойным вывучэнні рынкаў збыту маркетынгавымі службамі кожнага падшыпнікавага прадпрыемства і на свабодзе ініцыятывы.

Аднаўленне, дакладней сказаць, арганізацыя на новых прынцыпах сістэмы прадстаўніцтваў выклікана многімі прычынамі. Галоўныя з іх — стварэнне адзінай эканамічнай прасторы на тэрыторыі СНД і неабходнасць запоўніць свабодныя нішы ўсходняга рынку. Інакш гэта могуць зрабіць кемлівыя суседзі з Захаду. Ад дрэннай арганізацыі збыту церпіць найбольш распаўсюджаная група беларускіх падшыпнікаў — роліка-сферычная. "Бочкі", як называюць іх на Мінскім падшыпнікавым заводзе, запоўнілі склады гатовай прадукцыі. Зразумела, справа тут яшчэ і ў зніжэнні вытворчасці ў краінах СНД. Адсюль, як вынік, змяншэнне попыту на падшыпнікавую прамысловасць. Задача маркетынгавай службы МПЗ — не толькі аднаўленне старых сувязей, але і пошук новых партнёраў і, магчыма, у краінах, якія сталі на шлях развіцця.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Новыя грошы Бельгіі

У Бельгіі здымаюць з абарачэння банкноты вартасцю 5 тысяч бельгійскіх франкаў і выпускаюцца новыя купюры ў 2 тысячы BEF.

Новыя банкноты бэзавага колеру маюць больш высокую ступень абароны: металізаваная ніць, вадзяны знак, пукаты рэльеф, схаваная выява лічбы 2000, якую можна ўбачыць толькі ў ультрафіялетавых промнях.

Банкнота ў 5000 бельгійскіх франкаў паступова будзе здымацца з абарачэння да 1 снежня бягучага года. У далейшым яе можна будзе абмяняць толькі ў Банку Бельгіі, аднак без усялякіх абмежаванняў па часу і колькасці.

### Першы візіт

Верагодна, 6 ліпеня адбудзецца першы візіт прэзідэнта ЗША Біла Клінтана ў Латвію па запрашэнню прэзідэнта гэтай краіны Гунціса Улманіса. Прадугледжаны таксама сустрэчы с.Клінтана з прэзідэнтам астатніх дзвюх краін Балтыі: Эстоніі і Літвы.

Мэта візіту — абмеркаванне эканамічнай падтрымкі рэформ і пытанняў супрацоўніцтва ў вобласці інвестыцый і гандлю. Плануецца сустрэча амерыканскага прэзідэнта з дэпутатамі парламента і прадстаўнікамі ўрада Латвіі. Магчыма Клінтан выступіць з лекцыяй у Латвійскім універсітэце.

### Сусветная эканоміка і гандаль

Урэшце, пасля трох гадоў стагнацыі, павялічыўся ўзровень сусветнай вытворчасці. Аднак усяго на 1 працэнт. Па-ранейшаму нізкія тэмпы росту ў развітых заходніх краінах, на якія прыходзіцца больш як 70 працэнтаў сусветнай вытворчасці. У краінах, што пераходзяць да рыначнай эканомікі, працягваецца ўстойлівае падзенне вытворчасці. Як мяркуюць спецыялісты, у 1994 годзе рост вытворчасці ў свеце складзе ўсяго 2,5 працэнта.

Аб'ём сусветнага гандлю ў мінулым годзе павялічыўся толькі на 3,5 працэнта. Агульны аб'ём сусветнага экспарту ацэньваецца недзе ў 3,8 трыльёна даляраў ЗША. Змяненні цэн былі цалкам нязначныя. З-за падзення попыту знізіўся сусветны кошт на непаліўную сыравіну, энерганосьбіты (да 10 працэнтаў) і гатовыя вырабы. Такім чынам, з найбольшым прыбыткам аказаліся краіны, якія ў мінулым годзе экспартавалі гатовыя вырабы, а імпартавалі — сыравіну.

### Дарэчы...

Кіраўніцтва рэспублікі Казахстан вырашыла прадаць права разведкі і распрацоўкі на сваёй тэрыторыі радовішчаў алмазаў, золата, свінцу, цынку, вальфраму, нікелю, баксітаў, вугалю, малібдэну і медзі. Паводле папярэдніх даных, правядзенне міжнародных таргоў плануецца 14 ліпеня.

**ПАСЛЯ ЭКЗАМЕНУ**

# Ні пуху, ні пер'я!

□ **Уладзімір МІХНО, "ЧЗ"**

Школа нязвыкла апусцела, супакоілася. Нават крыху ніякавата бачыць у чэрвені маўклівую школу, адчуваць яе хваравітую спустошанасць. Трывожна неяк становіцца на душы, нібы трапіў у бальніцу, дзе гавораць паўшэптам, дзе строгі рэжым.

Чэрвеньская цішыня школы, аднак, вельмі падманлівая. Вунь за акном, на школьным двары, дзеці гучна смяюцца, крычаць, завіхаючыся ля клумбаў. Там — лета. А тут, на калідоры трэцяга паверха, настаўнікі, дзяжурныя па экзамену, раўніва вартуюць цішыню. Кожнага прыхаджая далікатна-ветліва папярэджваюць:

— Цішэй, калі ласка, ідуць экзамены.

Дзевяты "А" сёння піша кантрольны дыктант па беларускай мове. Ні пуху, ні пер'я! Моцны, даволі цікавы клас. Няма сумневу — з экзаменам ён справіцца. Дзевяты "А" мне спаглянуўся яшчэ той раз, увосень, калі прыязджаў сюды, у Полацк, у сёмую школу, у камандзіроўку. Прыемна здзівіла іхняе ўменне аргументавана і доказна паспрачацца. Уразіла начытанасць, а самае галоўнае — шчырае захапленне ўрокам, гатоўнасць і ахвота адказваць. Тады быў урок літаратуры. А хто многа чытае — той, як вядома, і граматна піша.

Тамара Пятроўна Гарэлікава, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, яна ж дырэктар сёмай Полацкай школы-гімназіі, прыняла гэты клас, можна сказаць, па эстафеце. Бо ў адным не пашанцавала дзевяцікласнікам: выкладалі тут беларускую ў розныя гады розныя настаўнікі. І да кожнага, вядома, трэба было прывыкаць. Але, здаецца, гэтая акалічнасць не надта паўплывала на веды вучняў...

Адчыняюцца дзверы — і як не бывала трывожнай экзаменацыйнай цішыні! Дзевяцікласнікі, хто гуртам, хто ў гордай адзіноце, хутка запоўнілі калідор. У кутку дзяўчаты весела шчабечуць, спрачаюцца, хто з іх правільна напісаў.

— Ну, як, — цікаўлюся, — цяжкі быў тэкст? Многа ўсялякіх зачэпістых знакаў прыпынку?

— Ды не, — усміхаюцца, — адны коскі.

А на вачах у выдатніцы — слёзы. Коску яна паставіла, а потым падумала і закрэсліла... Ах, гэтая злашчасная коска. Бывае, адна яна становіцца тваім лёсам. Ці ж няпраўда? Бо вельмі своеасаблівыя рэкамендацыі прапануюць настаўніку па ацэнцы экзаменацыйных работ. Скажам, калі ў цябе ў кантрольным дыктанце больш за пяць выпраўленняў, яны прыраўноўваюцца да памылкі, але толькі ў тым выпадку, калі гэтая памылка не прыводзіць да "двойкі". Калі ж у цябе болей як тры выпраўленні, можаш не разлічваць на выдатную адзнаку. Зноў жа зялёная вуліца гультаям і чырвонае святло на дарозе ў выдатніка. Крыўдна, але мы так любім гультаёў, што нават на афіцыйным узроўні гатовы ім патураць. Міжволі прыходзіш да высновы, што гэтыя самыя экзаменацыйныя рэкамендацыі альбо пісаліся людзьмі, якія ніколі самі не здавалі экзаменаў, альбо, шчыра кажучы, непрадуманыя. Чаго варта, скажам, установка на тое, што агульная адзнака не павінна перавышаць адзнакі на экзамене? Хто ж, як не сам настаўнік-прадметнік, лепей ведае і можа найболей аб'ектыўна ацаніць шматгадовую работу сваіх вучняў? Любы ж экзамен — своеасаблівая латарэя. Пашанцуе — не пашанцуе. На канчатковую адзнаку часта ўплываюць не толькі веды, але і адпаведныя настроенасць, уменне сабрацца з думкамі, авалодаць сабою. Бывае, падводзіць экзаменацыйнае хваляванне — усе ж мы людзі. А ў выніку — выпадковая коска, лішняе выпраўленне альбо дапушчаная адзіная нязначная памылка могуць перакрэсліць тваю шматгадовую работу, "сапсаваць" атэстат, парушыць жыццёвыя планы. На мой погляд, толькі за настаўнікам павінна заставацца апошняе слова пры ацэнцы вучнёўскай работы.

Экзамен закончаны, але толькі для вучняў. У настаўнікаў ён працягваецца. Зараз экзаменацыйная камісія будзе самым уважлівым чынам правяраць-перапраўляраць работы, аж пакуль кожны з яе членаў не пакіне свой подпіс пад канчатковаю адзнакаю. Работа цяжкая, марудная, адказная. Адна ўцеха — кветкі. Іх гэтулькі многа: ружы, нарцысы, півоні ўпрыгожваюць доўгі экзаменацыйны стол, пакрыты чырвоным абрусам. Кветкі ўзнімаюць настрой, ствараюць непаўторную атмасферу свята. Такую святочную атмасферу не забыліся яшчэ ствараць, відаць, толькі ў школе. Тут яшчэ захаваліся непахісныя жыццядайныя прынцыпы, тут яшчэ жывуць дабрыня, рамантызм, вера і альтруізм.

Не здала яшчэ ўсіх сваіх экзаменаў і дырэктар Тамара Пятроўна Гарэлікава. Вытрымаўшы адзін — па прадмету, яна неўзабаве ўшчыльную зоймецца іншымі. Гэта і выбарчая кампанія. Дырэктар — яшчэ і старшыня выбарчай камісіі. Гэта і яе гімназія, на якую паклала столькі сіл і намаганняў, на якую ўсклала гэтулькі надзей. Выбар свой Тамара Пятроўна зрабіла даўно — яшчэ тады, калі ўзяла паступовы, але няўхільны кірунак на беларусізацыю школы. Зараз нацыянальная гімназія, створаная пры колішняй рускамоўнай полацкай школе (дарэчы, сёмая школа да гэтага часу, як ні парадаксальна, афіцыйна лічыцца рускамоўнай), дарасла да шостага класа. І прымаюць сюды далёка не кожнага, а існуе строгі конкурсны адбор. Дзеці, каб паступіць у пятыя класы, павінны не мець здавальняючых адзнак за чацвёрты клас, вытрымаць экзамены па матэматыцы, рускай і беларускай мовах. Адзнака павінна быць добрай ці выдатнай. Складзены спецыяльныя тэсты патрабаванняў да гімназістаў. Паступова школа абрастае і ўласнымі нацыянальнымі традыцыямі, вопытам правядзення розных цікавых мерапрыемстваў, такіх, якім было, скажам, пасвячэнне ў гімназісты. Спецыяльна для гэтай падзеі самадзейны кампазітар з Полацка Мікалай Пятрэнка напісаў для гімназістаў гімн.

Нам пад сілу ўсе навукі,
Нашы сэрцы, як агонь,
Іх цяпло і нашы рукі —
Беларусі дарагой.

Словы гімна акрэсліваюць мэту гімназіі: выхаванне шляхам адраджэння нацыянальнай самасвядомасці, асвойваючы здабытак культуры свайго народа, як адзінай часткі сусветнай цывілізацыі.

Гімназісты не толькі маюць свой гімн, але і носяць адпаведную форму з эмблемаю. У аснову эмблемы пакладзены тры элементы:

РЫМСКАЯ ЯЧЭЙКА — архітэктурны матыў, вядомы са старажытных часоў, які стаў своеасаблівым сімвалам культавай архітэктуры, духоўнасці. У эмблеме гэты знак азначае прыналежнасць Полацка да гарадоў, пазначаных высокімі ўзорамі духоўнай культуры.

КВЕТКА ВАСІЛЬКА — сімвал дзяцінства. Дзеці, як і кветкі, нясуць радасць, упрыгожваюць наша жыццё. Не трэба забываць, што васілёк — гэта і сімвал Беларусі. (Успомнім верш Максіма Багдановіча "Слуцкія ткачыхі").

РАЗГОРНУТАЯ КНІГА. Гэта заклік да вучобы, а таксама напамін пра выдатных асветнікаў з Полацка: Ефрасінню Полацкую, Францыска Скарыну, Сімяона Полацкага.

Дарэчы, сёння ў сёмай полацкай школе і яшчэ адзін экзамен. Здаюць яго чацвёртыя класы для паступлення ў гімназісты. Колькі яшчэ жыццё задасць ім экзаменаў, колькі паставіць адзнак! Ні пуху, ні пер'я, Полацкая нацыянальная гімназія!



# Адвечнае

*(Заканчэнне. Пачатак фотарэпартажу на 1-й стар.)*



**ДАБРАЧЫННАСЦЬ**

## Пол Мор зноў у Мінску

*Днямі ў Мінску адбылася прэс-канферэнцыя вядомага сваёй дабрачыннай дзейнасцю пастара Пола Мора, на якой прысутнічалі сябры Беларуска-амерыканскага партнёрскага фонду і журналісты.*

Нядаўна фонд правёў у Беларусі конкурс праектаў гуманітарнай дапамогі ў розных галінах. З 340 прапаноў былі ў два этапы вызначаны 24 найбольш перспектыўныя. Сярод іх — праект развіцця Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, дапамога дзіцячаму эндакрыналагічнаму цэнтру і г.д.

Увогуле было падтрымана 9 праектаў у галіне аховы здароўя і медыцыны, 6 праектаў па вытворчасці прадуктаў харчавання, 3 праекты развіцця прадпрымальніцтва і 6 праектаў падтрымкі развіцця сацыяльнай сферы.

Пол Мор падкрэсліў, што ягоная "City Hope International" — не ўрадавая арганізацыя. Сродкі, што ідуць на субсідыі і крэдыты для Беларусі, складаюцца з прыбыткаў ад продажу сабраных у ЗША гуманітарных грузаў (харчавання, медыкаментаў), якія прадаюцца ў Беларусі ніжэй за рыначны кошт, а часам і распаўсюджваюцца (скажам, для дзіцячых устаноў) бясплатна. Да таго ж інфляцыя толькі за апошні год знізіла фінансавыя сродкі ў 25 разоў. З гэтай прычыны дзейнасць фонду не з'яўляецца вычарпальнай і ўсеахопнай. Аднак заяўлены на гэтай жа сустрэчы праект дапамогі дзецям-дыябетыкам (у прыватнасці, наладжванне вытворчасці фруктозы — садавіннага цукру — з тапінамбура) мае перспектыву быць разгледжаным на наступным конкурсе.

Па просьбе журналістаў спадар П.Мор асвятліў пытанне кантролю за размеркаваннем гуманітарнай дапамогі ягонага фонду. На думку мецэната, яна не можа не трапіць да адрасата, бо кожны факт атрымання фіксуецца дакументальна. А спадар М.Собаль з боку Саўміна дадаў, што супрацоўніцтва падобных фондаў з урадам Рэспублікі значна больш надзейнае, чым [illegible] супрацоўніцтва.

**Віталь МАРТЫНЕНКА.**

**МОВА ЗЯМЛІ**

## Аўцюкі Вялікія і Малыя

□ **А.РОГАЛЕЎ, кандыдат філалагічных навук**

Сярод жыхароў гэтых населеных пунктаў Калінкавіцкага раёна жыве паданне аб тым, што Вялікія і Малыя Аўцюкі набылі сваё імя ў часы аддзялення ад рускай праваслаўнай царквы часткі веруючых, якія не прызналі царкоўных рэформаў патрыярха Нікана, што праводзіліся з 1654 года. У той час вялікая колькасць уцекачоў быццам бы асела ў мясцінах, дзе цяпер размешчаны нагаданыя вёскі. Гэтых людзей так і звалі па колькасці пасяленцаў — вялікія і малыя ўцёкі. Ад слова ўцёкі, згодна з паданнем, і пайшла назва вёсак — Вялікія і Малыя Аўцюкі.

Аднак гісторыя Аўцюкоў пачыналася задоўга да сярэдзіны XVII стагоддзя. Найбольш ранняя з вядомых сёння звестак пра Аўцюкі (першасным з'яўляецца населены пункт Вялікія Аўцюкі, Малыя ж Аўцюкі ўзніклі як выселак з асноўнай вёскі) датуецца 1552 годам, калі быў складзены адзін з вопісаў Мазырскага замка, у якім, між іншым, ішла гаворка і аб прыпісцы да яго (замка) навакольных вёсак і аб павіннасцях іх жыхароў. Такім чынам, вытокі назвы, якая нас цікавіць, трэба звязваць зусім не з уцекачамі з межаў Русі-Масковіі, прыхільнікамі старой веры. І тым не менш, у пераказаным паданні ў завуаліраванай форме паведамляецца, на наш погляд, пра рэальныя падзеі, у прыватнасці, пра перасяленне, вынікам якога і стала ўзнікненне Аўцюкоў. На чым грунтуецца гэтае наша меркаванне?

Вядомы этнограф І.А.Сербаў у кнізе "Поездки по Полесью 1911 і 1912 годов" пісаў пра насельніцтва Аўцюкоў наступнае: "Аўцюк — перш за ўсё жыхар поўдня, брунет, сярэдняга росту і прыгожага целаскладу. Гаворыць ён скорагаворкай з паўднёварускім акцэнтам, зусім адвольна скарачаючы словы... Акрамя таго, у гаворцы аўцюкоў добра захаваліся формы і звароты рускай прамовы...".

Антрапалагічная, галоўным чынам, характарыстыка аўцюкоў і дае падставу думаць, што ўцекачамі з падання маглі быць перасяленцы з поўдня, з тэрыторыі Маларосіі (Украіны). Перасяленне гэтае адбылося не ў 1552 годзе, а раней, бо ў інвентарным вопісе згадваецца вёска, якая ўжо склалася і гаспадаром якой стаў нехта Герасім Калантай пасля таго, як купіў яе ў папярэдніх уладальнікаў — Заройскіх. Насельніцтва вёскі ў 1552 годзе складалася з 17 сялян, "людей айтючицких". Літара "й" у дадзеным выразе, відаць, перадавала гук "у", для якога ў кірылічаскай ("рускай") графіцы не было асобнай літары, ці сведчыла аб нейкай асаблівасці мясцовага вымаўлення геаграфічнага імя.

Першаснай формай назвы Аўцюкі з'яўляецца форма Аўцюцевічы, якая, дарэчы, згадваецца ў кнізе І.А.Сербава. Аб гэтай жа першаснай форме назвы вёскі ўскосна сведчыць і прыметнік "айтючицкие" з вопісу Мазырскага замка 1552 года. У аснове назвы Аўцюцевічы ляжыць "калектыўная мянушка" аўцюцевічы, якая датычылася ўсіх першых жыхароў — заснавальнікаў вёскі. Аўцюцевічы — гэта нашчадкі ці падданыя нейкага Аўцюты, ці Аўсюты. У сваю чаргу Аўсюта, Аўцюта — гэта мянушка, "вулічнае прозвішча" чалавека, якое ўтварылася ў выніку ўсячэння, скарачэння афіцыйнага асабовага імя Яўціхій ці Яўсей (апошняе — менш верагодна). У жывой народнай гаворцы падобным чынам утварыліся многія мянушкі, якія паступова ператварыліся ў прозвішчы: Арцём — Арцюх, Карніла — Карнусь, Мацвей — Мацюха, Барталамей — Барташ... Ад імя Яўціхій утварыліся таксама прозвішчы Еўтух і Яўтух (Еўтухоў).

Скарочаная форма назвы вёскі Аўцюцевічы паступова замацоўвалася ўжо ў сярэдзіне XVI стагоддзя, аб чым сведчыць запіс "село Айтючи" ўсё ў тым жа вопісе Мазырскага замка. Форма "Айтючи" з'яўляецца прамежкавай паміж формамі Аўцюцевічы і Аўцюкі; нічога неславянскага, небеларускага, як часам сцвярджаюць некаторыя даследчыкі (напрыклад, І.Гарыст гаворыць аб магчымых цюркскіх вытоках назвы), мы тут не бачым. Можна толькі яшчэ раз спаслацца на І.А.Сербава, які пісаў пра адвольнае скарачэнне слоў у гаворцы аўцюкоў.

**г.Гомель.**

### "Нявыгадныя" вяскоўцы...

Жыхары вёскі Азяркі, што ў Гарадоцкім раёне, зараз як ніколі часта ўспамінаюць вайну. У нямецкім палоне, у канцлагеры "Майданак" дзяцей пазабіралі ў матак, і доўгі час яны не ведалі нічога адзін пра аднаго. І вось гісторыя паўтараецца. Дзяцей з бацькамі разлучылі зноўку.

Толькі на гэты раз не вайна, а кіраўніцтва мясцовага аўтапарка. Закрылі аўтобусны маршрут Віцебск—Азяркі як нявыгадны. Між тым, ён быў адзінай ніточкай, што звязвала састарэлых бацькоў у аддаленай вёсцы і дзяцей у горадзе. Што зробіш — нявыгадныя зараз вяскоўцы!

**Уладзімір МІХНО.**

**МОЛАДЗЬ І ЧАС**




## Беларускі паясок і пілотка з гербам "Пагоня"

*У многіх навучальных установах узнікаюць цяпер скаўцкія дружыны. Думаецца, не лішнім будзе прыгадаць і колішні вопыт беларускіх скаўтаў.*

Скаўцкі рух, які ўзнік на пачатку нашага стагоддзя, у хуткім часе знайшоў сваіх прыхільнікаў у многіх краінах свету, але на Беларусі ў дакастрычніцкі перыяд не набыў шырокага размаху. І вось цяпер створаныя або адноўленыя ў нас скаўцкія дружыны бяруць сабе за прыклад дзейнасць скаўтаў у еўрапейскіх і амерыканскіх краінах, часта забываючы ці не ведаючы вопыту скаўцкага руху на землях Заходняй Беларусі ў 1920-30-я гады. А асаблівасці беларускіх скаўтаў таго часу выяўляліся і ў форме іх адзення, дзе спалучаліся як скаўцкія традыцыі, так і нацыянальныя адметнасці.

У адрозненне ад сіняй гімназічнай формы дзяўчатыскаўты насілі зялёную сукенку, а хлопцы — гэтага ж колеру штаны і кашулю з пагонамі, на якіх адзначалася іх скаўцкае званне. У залежнасці ад звання на кашулі з левага боку прымацоўваліся аксельбанты карычневага, срэбнага або іншага колеру. На шыю замест традыцыйнай хусткі беларускія скаўты павязвалі тканы беларускі паясок. А завяршала ўбранне пілотка з нябелага палатна. На яе правым баку прышываўся бела-чырвона-белы сцяжок, на які прышпільвалася металічная выява герба "Пагоня". Такі значок можна было набыць у віленскіх крамах, прычым былі як "літоўскі", так і "беларускі" варыянты. Сваю скаўцкую форму гімназісты мелі права насіць нароўні з вучнёўскай.

З выкарыстаннем нацыянальнай сімволікі быў распрацаваны і герб беларускіх скаўтаў. Ён меў выгляд белага шчыта, наўскасяк якога праходзіла чырвоная палоска. На шчыце адлюстроўваўся традыцыйны скаўцкі сімвал — белая лілія, на фоне якой быў змешчаны герб "Пагоня".

Гаворачы пра беларускіх скаўтаў, неабходна заўважыць, што іх было параўнальна мала і дзейнічалі яны фактычна толькі ў Віленскай беларускай гімназіі, бо ў іншых беларускіх гімназіях, якія існавалі да пачатку 30-х гадоў, скаўцкі рух лічыўся праяўленнем польскасці і не прымаўся. Тым не менш, сотні беларускіх хлопцаў і дзяўчат, прыехаўшы на вучобу ў Вільню, уключаліся ў дзейнасць дружыны беларускіх скаўтаў, прысягалі "добраахвотна ўсё жыццё выконваць службу Богу і Айчыне, несці дапамогу блізкім...", вывучалі гісторыю і культуру свайго народа.

**Мікола ГАЙБА,**
**навуковы супрацоўнік Навагрудскага гісторыка-краязнаўчага музея.**

## Конкурс закончыўся, конкурс працягваецца

Пра мэты і ўмовы конкурсу навукова-папулярных выданняў па экалогіі Беларусі і Мінска мы паведамлялі і адначасова запрасілі прыняць у ім удзел (21 снежня 1993 года). Паступіла каля 50 заявак. Мінула амаль паўгода і можна падвесці вынікі.

26 мая ў Мінскім гарсавеце адбылося прысвечанае гэтаму ганаровае пасяджэнне. Мэр беларускай сталіцы А.М.Герасіменка выступіў з прамовай перад удзельнікамі конкурсу, прадстаўнікамі прэсы, радыё і тэлебачання, а таксама грамадскасці і ўстаноў, зацікаўленых у паляпшэнні экалагічнай сітуацыі ў рэспубліцы. Ён адзначыў складаную экалагічную сітуацыю, у якой мы зараз знаходзімся, актуальнасць экалагічнай адукацыі і выхавання. Выступілі таксама прадстаўнікі арганізацый — ініцыятараў конкурсу. Пасля гэтага А.М.Герасіменка ўручыў граматы і дыпломы 22 удзельнікам розных тэматычных напрамкаў конкурсу.

Першае месца дасталася прадстаўніку Інстытута заалогіі Э.Р.Самусенку за кнігу "Сябры нашага дома". Другое і трэцяе месцы занялі супрацоўнікі Інстытута геалогіі і геахіміі дактары навук А.В.Кудзельскі (за кнігу "Вада жыцця нашага") і Э.А.Ляўкоў (за кнігу "Маўклівыя сведкі мінуўшчыны").

Спецыяльныя літаратурныя ўзнагароды атрымалі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі В.І.Стома, В.В.Лапцік, З.А.Бяспалы. Узнагароджана таксама група навукоўцаў, педагогаў і працаўнікоў практычных устаноў: прафесары В.Н.Кісялёў і Н.М.Кручкова (Белдзяржуніверсітэт), дактары навук А.І.Мікуліч і Н.С.Гусева (Інстытут этнаграфіі), В.І.Лучкоў (Інстытут батанікі), прафесар Б.П.Савіцкі (Камісія па экалогіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь), В.І.Алешка (Міністэрства экалогіі), Л.П.Каліноўская і Л.С.Чумакоў (Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў), М.Д.Гесь (выдавецтва "Навука і тэхніка").

Сярод перыядычных выданняў першае месца прысуджана газеце "Паляўнічы і рыбалоў Беларусі", другое — часопісу "Беларусь", трэцяе — газеце "Раніца". З аўтараў асобных цыклаў экалагічных публікацый у перыядычным друку ўзнагароды атрымалі інжынер В.М.Дубіловіч, кандыдат біялагічных навук А.М.Курскоў і журналістка В.А.Палякова ("Чырвоная змена").

Усяго ўзнагароджана прэміямі 29 аўтараў і сааўтараў 22 асобных твораў ці цыклаў публікацый.

Зараз аргкамітэт конкурсу працягвае дэталёвае абагульненне і аналіз яго вынікаў, каб скарыстаць вопыт мерапрыемства ў далейшым.

У прыватнасці, заслугоўвае ўвагі пошук крытэрыяў, якія паменшылі б суб'ектыўнасць ацэнкі твораў. Адным з такіх крытэрыяў з'яўляюцца аб'ём і тыраж твораў, бо менавіта яны вызначаюць колькасць інфармацыі, данесенай да чытачоў, і шырыню яе распаўсюджання. Да таго ж, тыраж твора, устаноўлены супрацоўнікамі выдавецтваў і кнігагандлю, у значнай ступені вызначае попыт чытачоў на асобныя творы. Попыт жа заўсёды большы на лепшыя, якасныя творы. Журы вялікую ўвагу ўдзяляла навуковай навізне і якасці выкладання фактаў, кругагляду аўтараў, шырыні і актуальнасці разглядаемых праблем, стылю, мастацкаму афармленню і г.д.

У цэлым трэба адзначыць, што конкурс прайшоў добра. На думку А.М.Герасіменкі, яго трэба прадоўжыць, далучыўшы да яго іншыя гарады Беларусі. Так што конкурс працягваецца.

**Э.САМУСЕНКА,**
**старшыня аргкамітэта экалагічнага конкурсу.**

